Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 2 (98) Чацьверг, 14-га Студня 1926 г. м. Вільня Год III

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр
за радок нонпарэля у тэксьце —25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

## БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА.

Аднэй з нацыянальных азнакаў кожнага народу — зьяўляецца вера яго бацькоў.

Народ шануе наагул сваю гістарычную мінуўшчыну, а за веру сваіх бацькоў часам кладзе і сваю галаву. Вера зьяўляецца апорай нацыі і нават часта ратуе самую нацыю ад нагібелі і асыміляцыі. Можна з пэўнасьцю сказаць, што у адраджэньні Польшчы, вялікую ролю адыграў каталіцкі касьцёл, які, у цяжкія хвіліны для польскай нацыі, быў асяродкам ня толькі рэлігійным, але і нацыянальным.

З беларускім народам сталася інакш.

З прадвеку Беларусь знаходзілася на раздарожжы паміж Захадам і Усходам.

У гістарычнай мінуўшчыне апошніх 400 гадоў, народ беларускі падзяліўся на праваслаўных і каталікоў, залежна ад уплываў Усходу і Заходу. Адначасова з уплывамі рэлігійнымі, як Захад, так і Усход нясьлі асыміляцыйныя тэндэнцыі: авангард Захаду — Польшча нясла полёнізацыю, Масква — русыфікацыю. Польшчы часткай удалася яе полёнізатарская задача, бо вышэйшая беларуская шляхта — князі і баяры — былі сполянізаваны. Шляхта-жа ўсходніх беларускіх абшараў была зрусыфікавана. Аднак жа самая маса беларускага народу захавалася, як ад полёнізацыі, гэтак і ад русыфікацыі. Уратавала беларускі народ ад поўнай асыміляцыі яго мова. Як ня зьдзекаваліся над яго мовай, як ня ганялі гэтую „мужыцкую" мову, народ ня пакінуў яе і дзеля гэтага і цяпер жыве.

І вось, у мамэнт адраджэньня, у мамэнт калі пасьля некалькіх векоў сьпячкі, беларускі народ прабудзіўся да нацыянальнай сьвядомасьці, недаацэніваюць ані самага факту адраджэньня, ані вялікага значэньня мовы для народу тыя, што павінны былі-б быць заўсёды разам з народам. Праваслаўнае духавенства да апошняга часу стаяла далёка ад працэсу адраджэньня беларускага народу і дзеля гэтага яно было чужым яму, яго ідэалам і лятуценьнямі Духавенства царквы каталіцкай даўно ўжо зразумела, што каб быць запраўдным пастырам, трэба ня толькі ісьці разам са сваім народам, але —і быць заўсёды наперадзі свае́й паствы. І ня гледзячы на вялікія перашкоды, на непрыхільнасьць вышэйшай каталіцкай улады да беларусізацыі касьцёла, — беларускія ксяндзы аткрыта і адважна вядуць змаганьне за гэтую беларусізацыю А ў гэты самы час, духавенства праваслаўнае ня толькі ня бярэ прыкладу з духавенства каталіцкага, але з незразумелай упартасьцю цураецца ўсяго беларускага. Ня гледзячы на тое, што мітрапаліт даў сваё багаслаўленьне на казаньні у матчынай мове, ня гледзячы на высыланьне рэдакцыяй „Праваслаўнага Беларуса" спэцыяльных дадаткаў беларускіх казаньняў, толькі незначныя адзінкі нашага духавенства, і то ня сьмела, пераходзяць на казаньні па беларуску. А час ужо, каб усе сьвяшчэньнікі — беларусы пачалі гаварыць царкоўныя казаньні на сваёй роднай мове, на мове свайго народу. А калі яны гэтую мову запамятавалі, дык павінны як хутчэй навучыцца.

У Расеі, пад бальшавіцкай уладай духавенства, пасьля страшэнных мукаў ачысьцілася духам. Там, сумесныя мукі, барацьба за веру і царкву, зблізілі народ і пастыраў. Там сьвяшчэньнікі ідуць тысячамі на пэўную сьмерць, а народ хваляй падымаецца на абарону веры, царквы і сваіх пастыраў. Там даўно ўжо ўпалі соцыяльныя перагародкі паміж духавенствам і народам. Тут, у Польшчы, мы бачым зусім іншае.

Нядаўна у Пінску адбыўся „Палескі эпархіяльны зьезд". Гэты зьезд зьяўляецца першай пасьля вайны спробай збліжэньня духавенства з міранамі. Ініцыятара гэтага зьезду — епіскапа Аляксандра можна толькі вітаць за энэргію і ініцыятыву. Аднакжа самыя пастановы зьезду — дзіўна аднабокія. Гэтак ёсьць пастановы: адносна пекнасьці і багалепія багаслужэньняў, аб царкоўнай дысцыпліне, аб захаваньні духавенства, эканамічныя, нарэшце аб арганізацыі прыхадзкіх, акружных і эпархіяльных зьездаў і царкоўных брацтваў. Былі прачытаны рэфэраты „аб пастырстве", прат. Жукоўскага, „аб місіянэрстве", прат. Шымаоўскага, аб „арганізацыі і пастаноўцы царкоўнага пеяньня" прат. Наумова, аб „культурна-прасьветнай працы", прат. І. Пятроўскага, аб „фінансава-адміністрацыйнай працы" прат. Губарёва, але ні слова аб самым балючым пытаньні—аб беларусізацыі царквы, аб агульным упадку веры, аб пашырэньні сэктанства. Між іншымі, на зьездзе быў прысутны і сябра „Беларускага Пасольскаго Клюбу" сэнатар Назарэўскі. Гэты „беларускі" сэнатар прымаў чынны удзел у зьездзе, гаварыў прамовы, падзякі, падаў карэспандэнцыі аб зьездзе ў газэту „За Свабоду" і... ані слова не сказаў (хаця бы дзеля прызваітасьці, г. зн. ex officio свайго „беларускага" сэнатарскага тытулу!) не толькі аб беларусізацыі царквы наагул, але хаця-бы аб патрэбе казаньняў у беларускай мове!.. Галоўная рэзалюцыя, прынятая аднагалосна, гаворыць: „...„эпархіяльны зьезд зьвяртае увагу на ненармальнае зьявішча *поўнага разладу паміж духавенствам і міранамі* і лічыць, што прычынай гэтага зьяўляецца аддаленьне міран ад удзелу у царкоўным жыцьці і выказвае пажаданьне аб узнаўленьні прынцыпа саборнасьці ў праваслаўнай царкве ў Польшчы..."

Мы-ж скажам: не міране, а само духавенства аддалілася ад народу. І ніякія рэзалюцыі і пажаданьні не памогуць аб еднаць духавенства і народ. Адзіная дарога да гэтага—гэта нацыянальная царква. Беларусы, як каталікі, так і праваслаўныя павінны мець сваю беларускую царкву і сваё беларускае духавенства. Тагды ўсюды, па усіх кутках Беларусі будзе цесная сувязь, еднасьць і згода паміж народам і яго пастырамі. У гэтым нацыянальная, моц і рэлігійная.

---

## Палітычны агляд.

Эўрапэйскі эканамічны крызіс апошніх гадоў высунуў пытаньне аб эміграцыі. У Зах. Эўропе, як ведама, жыве больш народу, чым можа там пракарміцца натуральнымі прадуктамі. І дагэтуль шмат якія густа населёныя эўрапэйскія дзяржавы, як напр Англія, Нямеччына, Бэльгія, Італія. Аўстрыя ды інш. жылі дзякуючы, прывозу сыр'я для фабрык і спажыўных прадуктаў з іншых дзяржаваў, як Амэрыкі, Аўстраліі, Азіі і Расеі, даючы за тое гатовыя фабрычныя прадукты.

Але ў часе вайны шмат якія эўрапэйскія калёніі, або разьвілі уласную прамысловасьць і дзякуючы гэтаму здабылі экамічную незалежнасьць, або падпалі пад уплыў Амэрыкі і Японіі. С.С.Р.Р.-жа, дзякуючы панаваньню бальшавікоў, зусім страціла даўнейшае значэньне жытніцы Эўропы і абшырнага рынку збыту гатовых таварау заходня эўрапэйскіх дзяржаваў. Згодна з афіцыяльнымі данымі, да якіх трэба адносіцца вельмі асьцярожна, вываз з С.С.Р.Р. у мінулым годзе дайшоў да 507.844.000 руб. а ўвоз 633.311.000 руб. Пры пераводзе на даваенныя цэны агульны абарот, г. зн. увоз і вываз 1924—1925 г. даходзіць цяпер да 676.209.000 руб. Перад вайной гэты абарот даходзіў да 2.641.488.000 руб. Гэткім чынам заграничны гандаль бальшавікоў састаўляе 25 прац. даваеннага, калі ня меней. Таксама паменшыліся гандлёвыя абароты і ўва ўсіх іншых эўрапэйскіх дзяржавах, ведама, ня ў гэткай прапорцыі. А у той самы час насяленьне павялічваецца, ня гледзячы на вайну, а зямля ўсё менш ды менш дае прадуктаў. І перад Эўропай зьявілася паважнае пытаньне аб пракармленьні свайго насяленьня.

Гэтым пытаньнем заняўся адзін з нямецкіх вучоных, Алёізы Фішэр. Ен дайшоў да пераконаньня, што у цяперашні час жыве на зямлі каля 30 прац. таго ліку насяленьня, якое можа пракарміцца прадуктамі гэтае зямлі пры сучасных спосабах культуры. Але гэта сярэдняя цыфра для ўсей зямлі, ў розных частках сьвету надта хістаецца. Гэтак у Эўропе ўжо жыве 82 прац. таго агульнага ліку, які мог бы пракарміцца яе прадуктамі. У Азіі—60 прац, у Афрыцы—8 праці у Амэрыцы—11 прац.. у Аўстраліі Акеаніі 3 прац. Гэткім чынам найвялікшую пагрозу перасялённасьць саставляе для Заходняй Эўропы. У ёй ужо шмат дзяржаваў ня могуць пракарміцца прадуктамі уласнае зямлі і жывуць толькі дзякуючы прывозу прадуктаў з іншых дзяржаваў. Гэтак напр. у Швэйцарыі жыве на 33 прац. больш насяленьня, чымсь можа там пракарміцца ўласнымі прадуктамі. У Бэльгіі жыве на 121 прац. болей, у Галяндыі на 73 прац., у Англіі на 79 прац., у Фінляндыі—74 прац., Нямеччыне—40 прац і ўва ўсей сярэдня-заходняй Эўропе на 17 прац. болей чымсь можа пракарміць зямля.

Пакуль у Заходняй Эўропе не было эканамічнага крызісу, г. зн. пакуль рэчы фабрычнай вытворчасьці гэтых дзяржаваў мелі свабодны збыт у іншых частках сьвету, гэта ня было небясьпекай. Заўсёды за гатовыя тавары можна было атрымаць сыр'ё і патрэбныя прадукты. Уся Заходняя Эўропа прадстаўляла быццам адзіны фабрычны абшар, які абслужываў Азію, Афрыку, Аўстралію і крыху палудзённую і сярэднюю Амэрыку. А цяпер ува ўсей Заходняй Эўропе страшэнны застой у прамысловасьці і гандлю. У Англіі лік безработных даходзіць да 1.200.000 душ, у Нямеччыне у апошні час таксама безрабоцьце дайшло да катастрафічных разьмераў, перайшоўшы за мільён душ. Нават у маленечкай, 7—мільённай Аўстрыі лік безработных больш за 200.000 У С.С.Р.Р. лік безработных больш за мільён. Польшча знаходзіцца ў гэткім самым палажэньні, як і іншыя дзяржавы. У нас гэтак саме лік безработных расьце з катастрафічнай хуткасьцю. Лік афіцыяльна зарэестраваных безработных больш за 300.000 душ, і кожны тыдзень павялічваецца ў сярэднім на 12.000 душ. Больш за палову фабрык ужо зачынена, а рэшта працуе па 2—3 дні ў тыдзень. Дзеля гэтага у Польшчы пытаньне аб эміграцыі, якая пазволіла бы пазбавіцца лішку насяленьня мае асабліва важнае значэньне. Калі б не эміграцыя ў Амэрыку, Францыю і інш краі, дык лік безработных у Польшчы быў-бы больш за 1 мільён. Але трэба яшчэ ўзяць пад увагу й натуральны прырост насяленьня. І з гэтага боку Польшча займае пер-

# Ідэалёгія і тактыка „лістападаўцаў"

Мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары аб выкрытай бальшавікамі новой арганізацыі паўстанцаў на Случчыне.

„Młot" у № 280 падае надта цікавыя данныя аб складзе „лістападаўскай" групы, яе ідэалёгіі і тактыцы. У склад арганізацыі ўваходзілі пераважна вясковыя настаўнікі і *вучнёўская моладзь*, што зьяўляецца асабліва радасным фактам пры калецтве моладзі бальшавікамі рознымі „комсамоламі", „піанэрамі" і г. д. Што тычыцца праграмы лістападаўцаў, дык „Młot" кажа наступнае: „праграма гэта была дакладна падана ў пісанай ад рукі газэце „Нашае Слова", выдаванай групай Лістапада, а таксама ў цэлым шэрагу адозваў, пісьмаў і інструкцыяў. Падставай праграмы ёсьць: імкненьне да разрыву лучнасьці паміж работніцкай клясай і сялянствам; скіраваньне здаровых імкненьняў беларускага сялянства і інтэлігэнцыі да стварэньня ўласнай нацыянальнай культуры у шовіністычным і варожым да саветаў напрамку, а таксама ўзгадаваньне ў беларускім сялянстве пачуцьця ненавісьці да міжнароднага цэнтру рэвалюцыйнага руху—чырвонай Масквы".

А вось што, паводле перадачы „Młot'у", кажа аб заданьнях гэтай групы лістападаўская газэта „Нашае Слова": „працаваць прыдзецца адначасна сярод двох, калі гэтак можна сказаць, групаў: першую, галоўную групу складаюць сяляне, а другую—сялянская інтэлігэнцыя. Затрымаемся перадусім на інтэлігэнцыі, як на групэ больш сьвядомай датычна свайго становішча, але менш лічэбнай і менш азнаёмлянай з сялянскім рухам. Інтэлігэнта трэба азнаёміць перадусім (зразумела памятаючы аб конспірацыі нелягальнай арганізацыі) з рухам нацыянальна-сялянскім (трэба аб'еднаць у адно нацыянальны і сялянскі клясавы рух), зацікавіць інтэлігэнта гэтым рухам і вытлумачыць яму патрэбу арганізаваньня сялян".

Што тычыцца тактыкі лістападаўцаў, дык у „Нашым Слове" гаворыцца гэтак: „Калі пачнецца вайна, трэ будзе выкарыстаць усе элемэнты нездаволеныя савецкай уладай і арганізаваць іх. Найбольшую увагу трэба зьвярнуць на дэзэртыраў. Апрача арганізаваньня аддзелаў з гэтых дэзэртыраў, трэба будзе павялічыць іх лік пры дапамозе агітацыі. Калі прыдзецца змагацца змагацца шляхам тэррору, дык ніхто не павінен гэтага баяцца".

Усім вышэйпаданым надта іскрава характэрызуюцца адносіны беларускага сялянства да бальшавіцкай улады ў Усходняй Беларусі.

---

шае мейсца пасьля Галяндыі, дзе штодзенны прырост насяленьня састаўляе 1,6 прац. усяго насяленьня. У Польшчы прырост даходзіць да 1,5 прац., у Японіі—1,4 прац., у Англіі—1 прац., у Бэльгіі—0,8 прац. і ўва Францыі — 0,06 прац., г. зн. на 25 прац. меншы, чымсь у Польшчы.

Пры гэтым трэба адзначыць, што пасьля вайны ў Польшчу вярнулася шмат г. зв. бежанцаў з Расеі, выехаўшых у часе вайны. У працягу першых пяцёх гадоў пасьля вайны з С.С.Р.Р. прыбыла 1.216.419 душ і гэты прыток рээмігрантаў або оптантаў ня спыніўся і дагэтуль. Апрача таго ў першыя гады незалежнасьці Польшчы была сільная цяга польскіх эмігрантаў з Амэрыкі, дзе іх ёсьць каля 4 мільёнаў. Гэтак у 1920 годзе прыехала з Амэрыкі 70.000 душ, галоўным чынам работнікаў, якія спадзяваліся знайсьці больш выгадныя варункі працы ў сябе на бацькаўшчыне. У 1921 г. прыехала 78 000. Але пасьля гэты рух зьменшаецца, дзеля таго што ніхто з іх ня мог знайсьці заработка. Дзеля гэтага ў 1922 годзе лік іміграантаў з Амэрыкі адразу ўпаў да 11.000, у 1923 г.—да 6 693. Аднак лік насяленьня у Польшчы ў апошнія гады не павялічыўся, а нават паменшыўся. Гэтак на 1 студня 1923 г. ў Польшчы было 28.152.000 насяленьня, а на 1 студня мінулага году было 27.896.000. Гэта тлумачыцца масавай эміграцыяй рабочых з Польшчы у іншыя краі.

Эміграцыя з Польшчы ў іншыя краі пачалася яшчэ перад вайной. Але асабліва павялічылася ў апошнія гады. Пры гэтым трэба адзначыць два роды эміграцыі: у заморскія краі і ў эўрапэйскія. У той час як першая мае характар перасяленьня на пастаяннае жыхарства, другая мае часовы характар, г. наз. сэзонных работнікаў. У Амэрыку эмігравала ад 1920 г. да 1924 г. 265.300 чалавек. Цяпер Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі амаль што зусім зачынілі ўезд чужаземцам. Толькі ў рэспублікі Палудзённай Амэрыкі, як Бразылія, Аргентына і інш. ды ў Канаду яшчэ ёсьць малая магчымасьць эміграцыі. Але больш за ўсё у апошнія гады выехала работнікаў з Польшчы ўва-Францыю.

У апошнія гады ўва Францыю эмігравала больш за 400.000 душ. Але і гэты шлях ужо зачыняецца, бо Францыя ўжо здаволіла свае патрэбы. Яшчэ трэба адзначыць эміграцыю ў Нямеччыну. Перад вайной у Нямеччыну эмігравала з Польшчы кожны год каля 150.000 — 250.000 чал. і агульны лік эмігрантаў даходзіў да 600.000. Гэта былі галоўным чынам сельска-гаспадарчыя работнікі і рудакопы. Частка сельска-гаспадарчых работнікаў на зіму варочалася да хаты, а ў летку ізноў выяжджалі. У цяперашні час у Нямеччыне засталася каля 350.000 — 400.000 польскіх сэзонных работнікаў, якія ня маюць нямецкага падданства, і значная частка якіх, калі-б эканамічны крызіс у Нямеччыне прадоўжыўся, або калі-б завастрыліся адносіны з Польшчай, павінны былі-б вярнуцца на бацькаўшчыну. Аб далейшай эміграцыі палякоў ў Нямеччыну ня можа быць і гутаркі. У Румынію эмігравала ў 1922 — 1924 годзе каля 20.000 работнікаў. У Данію—2.500, галоўным чынам жанчын. У Бэльгіі ёсьць 5.000 польскіх работнікаў і кольк дзесяткаў тысячаў у Чэха Славакіі.

Дзеля таго што, дзякуючы агульнаму эканамічнаму крызісу, цяпер няма ніякіх відаў на эміграцыю, дык пытаньне аб лішку насяленьня і безработных зьяўляецца найбольш балючым, асабліва ў нас. Безработныя ня толькі зьяўляюцца вялізным цікарам для дзяржаўнага скарбу, яшчэ больш павялічваючым эканамічны крызіс, але таксама зьяўляюцца паважнай небясьпекай для дзяржавы і з палітычнага боку, як падатлівы матэрыял для бальшавіцкае прапаганды. Апрача таго гэтае пытаньне высоўвае на першы плян у Заходняй Эўропе справу захаваньня даўнейшых калёніяў у Азіі і Афрыцы і здабываньні новых. Для Англіі, Бэльгіі, Галяндыі, Нямеччыны, Італіі і Францыі гэта пытаньне — зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці. А дзеля таго што бальшавікі разьвілі вялізную агітацыю ў эўрапэйскіх калёніях у напрамку іхняй незалежнасьці, дык гэта ў канцы канцоў павінна давесьці да агульнага эўрапэйскага выступленьня проці С.С.Р.Р. Як-ні як ня можа быць ніякай гутаркі аб зблiжэньні С.С.Р.Р. з Заходняй Эўропай. У апошні час можна заўважыць зусім адваротнае зьявішча.

**N.**

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

— На паседжаньні Рады Міністраў міністар Марачэўскі (П. П. С.) запрапанаваў кандыдатуру маршалка І. Пілсудскага на становішча Начальніка гэнаральнага штабу. Пытаньне аб гэтым будзе разглядацца на чаргавым паседжаньні Рады Міністраў.

— Рада Міністраў выдала загад аб састаўленьні сьпісу маёнткаў, якія, згодна з законам аб зямельнай рэформе, павінны быць распарцэляваны ў 1926 годзе. Тымчасам прадбачыцца выкуп і распарцэляваньне 50.000 гэктараў.

— Гэтымі днямі выехала ў Савецкую Расею парляманцкая група, у складзе паслоў: Ярэміча, Мятлы, Уласава (беларусы), А. Васыньчука (украінец), Брыля, Федаркевіча, Ваяводскага (Незал. Сялян. Партыя), Разумэка (немец), Дзідуха (група кс. Окуня) і б. вызваленца Гэльмана.

— Лік безработных увесь час павялічваецца. За апошнія дні зачынілася яшчэ некалькі фабрыкаў у Лодзі і некалькі тысячаў работнікаў апыніліся на вуліцы.

— Арыштаваны асьпірант палітычнай паліцыі Паўлоўскі, які аказаўся бальшавіцкім агэнтам.

## За граніцай.

**Нямеччына.** Місія тварэньня новага кабінэту міністраў даручана Лютэру. Соцыялісты адмовіліся ісьці ў кабінэт разам з нацыяналістамі, якія дамагаюцца ўстанаўленьня дыктатуры. Гэткім чынам ідэя „вялікай коаліцыі", на якой стараўся пабудаваць свой кабінэт Лютэр, ня можа дайсьці да скутку. Прадбачыцца роспуск парляманту і вызначэньне новых выбараў.

**Вэнгрыя.** Раскрыта арганізацыя, якая займалася падрабляньнем заграннічных, а галоўным чынам францускіх, грошаў. Арыштавана шмат асобаў. Усе яны — прадстаўнікі вышэйшых клясаў: шмат арыстакратаў, з князям Віндзішгрэцам на чале. Арганізацыя гэта падрабляла грошы з мэтай здабыць сьродкі дзеля таго, каб пасадзіць на пасаг прынца Альфрэда Габсбурга. Арганізацыя мела сувязь з нямецкімі пакрэўнымі арганізацыямі. Пакульшто устаноўляна, што была падробляна на 40 мільёнаў францускіх франкаў. У зьвязку з гэтым папсаваліся адносіны паміж Вэнгрыяй і Францыяй. Манархістычны рух значна пашыраецца. Магчыма абвешчаньне аднаго з Гасбсургаў каралём Вэнгрыі.

**Турцыя.** Ангельска-турэцкі канфлікт з-за Мосуля будзе вырашаны мірным шляхам. Пачаліся ўжо перагаворы аб размяжаваньні тэрыторыяў, якія павінны застацца пры Турцыі, а якія пры Англіі.

**Баўгарыя.** Кабінэт Цанкава падаўся ў адстаўку. Місію стварэньня новага кабінэту цар даручыў макядонцу Ліанчэву. Гэта выклікала нездаваленьне ў Софіі. Ідзе рашучая барацьба, ня толькі з комуністамі, але наагул з левымі партыямі.

**Грэцыя.** Дыктатар Грэцыі гэнарал Пангалос „адмяніў" канстытуцыю і ўстанавіў рэжым асабістай улады. Ен абяцае рэарганізаваць армію, павялічыць флёт і наагул зрабіць Грэцыю самай магутнай дзяржавай на Балканах.

**Албанія.** З Дураццо паведамляюць, што прэмьер Ахмэт-Зога абвясьціў сябе каралём Албаніі.

**Кітай.** Гэн. Фэнг адмовіўся ад камандаваньня рэвалюцыйнымі войскамі і выехаў няма ведама куды. Губэрнатар Манджурыі гэн. Чанг-Тсо-Лінг таксама зрокся свайго становішча.

**Францыя** Кабінэт Брыяна атрымаў у Сэнаце вотум даверыя. Урад праводзіць фінансавую рэформу.

**Румынія.** Насьледнік пасаду прынц Кароль зрокся сваіх правоў на карысьць свайго малога сына Міхала і выехаў з Румыніі.

---

# Новая авантура.

Віленская газэта „Słowo" у № 8 падае гэткую вестку з Коўні:

„Згодна атрыманых з Коўні вестак, ізноў зьявіўся там на палітычнай арэне вядомы дзеяч Ластоўскі. Як ведама, у часе істнаваньня беларускага ўраду, прэмьерам якога быў Цьвікевіч, Ластоўскі раптам страціў ласку ў літоўцаў. Цяпер-жа, пасьля кампрамітуючага выступленьня Цьвікевіча і выезду яго ў Менск, ковенскі ўрад пастанавіў за ўсялякую цану ўзнавіць парваную сувязь з антыпольскім „беларускім рухам". Дзеля гэтага ў Коўні арганізавана новае Таварыства, пад назовам Літоўска-Беларускага Таварыства, на чале якога стаў Ластоўскі. Віцэ-Старшынёю Т-ва выбраны Янулайціс, сэкрэтаром Дуц-Душаўскас (*пэўне Душэўскі? Рэд.*), сябрамі—прадстаўнікі Сойму — М. Сьлежэвіч і Сьцепановіч. Афіцыяльны камунікат першага паседжаньня сцьвярджае, што мэтай Т-ва зьяўляецца імкненьне да зьліжэньня братніх народаў літоўскага і беларускага і дапамога Беларусі ў яе змаганьні з Польшчай за незалежнасьць. Кіраўнікамі Т-ва—як гаворыць камунікат—зьяўляюцца выдатныя і вядомыя літоўскія і беларускія дзеячы".

Ня гледзячы на агіднае ашуканства Літвою Ластоўстага і ліквідаваньне яго папярэдняга ўраду, Ластоўскі ізноў кінуўся ў авантуру. Лепей было-б, каб ён заняўся культурна-навуковай працай, чым дробнай палітычнай авантурай!

---

# Праўда аб бэрлінскай конфэрэнцыі.

У той час, як віленскі бальшавіцкі падгалосак „Беларуская Ніва" шчыра „вітае" агіднае зьменавехаўства авантурнікаў Цьвікевіча і інш, вось як на гэты факт рэагавалі выдатныя беларускія дзеячы.

Першым асудзіў гэты крок сам быўшы Старшыня Ураду Б. Н. Р. — Ластоўскі. Пасьля гэтага ў газэтах зьявіўся пратэст проці павароту да бальшавікоў быўшага Старшыні Рады Рэспублікі – Крэчэўскага.

На гэтых-жа днях намі атрыманы білютэнь заграннічных дэлегацыяў партыі беларускіх левых эсэраў. У білютэні зьмешчаны артыкул „Пагоня за мёртвымі душамі", які падае вельмі цікавыя мамэнты вядомай бэрлінскай беларускай „конфэрэнцыі":

„Гэта конфэрэнцыя — піша білютэнь — якая складалася з 12—16 эмігрантаў, ня толькі не прадстаўляла працоўных масаў Беларусі, але не прадстаўляла нават і шырокіх колаў эміграцыі. Конфэрэнцыя „афіцыяльна" зьліквідавала, фактычна даўно ўжо ня істнуючы, Урад Б.Н.Р. і заявіла, што „у Савецкай Беларусі заложаны моцны фундамэнт незалежнай беларускай дзяржавы і праводзяцца ў жыцьцё нацыянальныя і соцыяльныя ідэалы беларускага народу". Частка прадстаўнікоў пражскай эміграцыі *з пратэстам пакінула паседжаньне*. 25 кастрычніка ў Празе адбыўся сход беларускіх студэнцкіх арганізацыяў. Пасьля дакладу аб бэрлінскай конфэрэнцыі, сходам была прынята рэзалюцыя, у якой між іншым гаворыцца наступнае: „У Савецкай Беларусі *эканамічнае палажэньне сялянства і работнікаў* таксама *цяжкае. Зямельная рэформа цалкам не праведзена*. Палепшаньне быту сялянства затрымліваецца вялікімі падаткамі, адсутнасьцю свабоднай коопэрацыі і профсаюзаў, а таксама дзякуючы цэнтралістычна-бюракратычнай сыстэме ўлады... Трэба прызнаць што *ідэалы нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня беларускага народу яшчэ не праводзяцца ў жыцьцё*. Вызваленьне беларускага народу — справа яго ўласных рук".

Вось як на гэтае здрадніцкае зьменавехаўства рэагуюць розныя адламы беларускай палітычнай думкі на эміграцыі.

Аб адносінах-жа да бальшавікоў беларускага народу „там", у межах „незалежнай (?) Беларусі вельмі іскрава гаворыць падрыхтоўка да новага паўстаньня на Случчыне, на чале якога сталі вясковыя настаўнікі.

# Агляд прэсы.

„Kurjer Wileński“, у № 7, абгаварываючы у артыкуле „Рэформа адміністрацыі“ справу вызначэньня камісіі спэцыялістаў для правядзеньня гэтай рэформы у жыцьцё, і зазначыўшы, што ў склад гэтай камісіі увайшлі Бобрынскі, Кашніца і Смульскі, паміж іншым піша:

„На працягу апошніх гадоў гэта ўжо ня першая спроба. Сьмела можна сказаць, што ад самага пачатку свайго існаваньня польская адміністрацыя ўвесь час знаходзіцца ў працэсе рэарганізацыі. Розныя камісіі і розныя асобы у сваім часе стараліся паставіць на адпаведную вышыню мэтады і чыны польскай адміністрацыі. Аднак-жа гэтыя стараньні зусім ня далі рэзультатаў. Нашую адміністрацыю можна параўнаць да абапёртага на памылковa разлічаным фундамэнце і кепска расплянаванага вялізнага будынку, да якога заўсёды што-небудзь дабудоўваецца, што-небудзь адыймаецца, зьмяняецца, дачапляецца, аж нарэшце, пасьля ўсіх гэтых, не ажыўлёных адзінай конструкцыйнай думкай, перарабкаў, заместа простага і дастасаванага да практычнага жыцьця будынку, паўстае нейкая дзіўна скамплікаваная, цяжкая і нязграбная будыніна, у якой людзі, прымушаныя з яе карыстацца, ня толькі не атрымліваюць дапамогі у сваіх справах, але маюць толькі адны непрыемнасьці і клопаты. Адміністрацыя наша ня толькі не арганізуе гаспадарчага жыцьця краю, але пераважна яго затрымлівае дзякуючы непатрэбнай рэглямэнтацыі, адсутнасьці рашучасьці і неакрэсьлянасьці компэтэнцыі“.

І далей:

Мы лічым, што рэформу трэба пачаць не ад надбудовак ці дабудовак, але ад самай падставы, фундамэнту. Раней чым прыступаць да будаваньня трэба ачысьціць пляц ад брудаў і сьмецьця, якімі яго завалілі“.

Зазначаючы далей, што асобы, якія вызначаны ў камісію спэцыялістаў, ня маюць нічога супольнага з нашым краем, газэта кажа:

„Рэформа гэта можа быць праведзена на нашых абшарах з пасьпехам толькі людзьмі мейсцовымі, ці прынамсі добра азнаёмленымі з мейсцовымі варункамі жыцьця і правідлова іх ацэніваючымі. Вызначаныя-жа ў камісію спэцыялісты, ня толькі ніколі ў нас не былі, але нават зусім не зьвязаны з нашым краям“.

Далей газэта зварачвае увагу на неабходнасьць арганізацыі *праўдзівых* самаўрадаў:

„Гэта рэформа можа быць праведзена на падставе конституцыі, якая прадбачыць арганізаваньне шырокіх ваяводзкіх самаўрадаў і аб'яднаньне гэтых самаўрадаў у правінцыяльныя хаўрусы. Гутарка ідзе аб тым, каб улажыць у гэтыя самаўрады зьмест адпавядаючы іх заданьням. Існуючыя ў нас цяпер г. зв. Samorządy зьяўляюцца карыкатурай, якая нікога ня можа здаволіць.

Бязумоўна здаровыя думкі, але ажаль нашыя палітыкі думаюць зусім інакш. Яны, як даўней у Расеі Сталыпін, кажуць — „раней успакаеньне, а потым рэформы“. Вельмі дзіўна толькі, што гэтыя палітычныя кіраўнікі ня бачаць тых рэзультатаў, якія дала Сталыпінская палітыка у Расеі.

Гэтая-ж газэта у № 3 падае цікавыя пастановы XX кангрэсу партыі П.П.С., які паміж іншым прыняў гэткія рэзалюцыі:

„Дамагацца правядзеньня ў жыцьцё ўсіх артыкулаў Конституцыі ад 17 сакавіка, а галоўным чынам тых яе аддзелаў, якія датычаць правоў нацыянальных меншасьцяў; устанаўленьня аднальковай для ўсей дзяржавы, абапёртай на пяцёх-прыкметным праве галасаваньня, выбарнай ардынацыі да самаўрадаў і правядзеньня выбараў у гэтыя Самаўрады.

Рэзалюцыі вельмі пекныя! Але пажадана, каб прадстаўнікі П. П. С.— *міністры Ураду*—зрабілі *канкрэтныя крокі да паступовага правядзеньня гэтых рэзалюцыяў у жыцьцё*. Напрыклад хацябы ў адносінах да беларускай школьнай справы. Бо інакш гэтыя рэзалюцыі застануцца гучнымі славамі... і толькі!

# Гульня у „сялянскіх абаронцаў.“

У той час, як усе польскія газэты перадрукавалі з бальшавіцкае прэсы вестку аб новым паўстаньні на Беларусі, на чале якога стаялі выключна сяляне — б. слуцкія паўстанцы, беларуская апазыцыйная прэса, *без вынятkaў*(!), ані слова не надрукавала аб гэтым важным здарэньні ў жыцьці сялянства Ўсходняй Беларусі. Тое, што аб гэтым паўстаньні прамаўчала комуністычная „Беларуская Ніва“ нас зусім ня дзівіць. Але, каб „нібыто антыбальшавіцкая“ „Krynica“ і новапаўстаўшая „Сялянская Ніва“ ня ўспомнілі хацябы ў хроніцы аб гэтым — гэта, вельмі характэрна... А калі ўзяць яшчэ пад увагу факт „прыяцельскай“ паездкі пасла Ярэміча ў Саўдэпію, дзе яго разам з іншымі „дэлегатамі“ сустракаюць музыкай і ганаровымі карауламі... камсамольцаў, дык зьмест першых нумароў „Сялянскае Нівы“ зусім ня вяжацца з апошнім крокам аднаго з двох кіраўнікоў гэтай газэты. Тым больш дзіўным зьяўляецца факт упартага маўчаньня бел. апазыцыйнай прэсы аб арганізацыі Лістапада, што гэта арганізацыя была чыста сялянскай, а „Сялянская Ніва“ лічыць сябе органам новага „Сялянскага Саюзу“, які нібыто бароніць інтарэсы беларускіх сялян... Відаць спрытнасьць п. Ярэміча дазваляе яму „бараніць“ сялян толькі тут, у Польшчы, і адначасна ціснуць руку катам і забойцам беларускіх сялян там... у Ўсходняй Беларусі.

# У С.С.Р.Р.

### Новы паход на царкву.

З Расеі паведамляюць, што там пачаўся новы паход проці царквы. У Маскве бальшавікі арыштавалі мітрапаліта Пётра Круціцкага, які на падставе тэстамэнту памёршага патрыарха Ціхана быў „храніцелям Патрыаршага Прастолу“. Арыштавалі яго за непрызнаваньне г. зв. „жывацаркоўнікаў“.

У Палтаве арыштаваны 2 епіскапа і 50 сьвяшчэньнікаў. Усіх іх адаслалі ў Маскву.

У Харкаве бальшавікі арыштавалі епіскапаў Арсенія і Серафіма і некалькі вышэйшых кансысторскіх урадоўцаў. У Палтаве арыштавалі парахвіян з Лубноў, якія прыехалі прасіць аб звальненні свайго сьвяшчэньніка Аляксандра Барацінскага.

### Распаясаліся.

Апошні зьезд комуністычнай партыі прайшоў вельмі бурна. Паміж верхаводамі партыі паўстала нязгода, галоўным чынам у пытаньнях аб адносінах да вёскі. Распалёныя барацьбой аратары ня мала адкрылі праўд у сваіх прамовах. Гэтыя праўды вельмі добра малююць праўдзівы твар бальшавікоў. Перш на-перш — Сталін, які бараніў маскоўскіх верхаводаў, ў прамовах сваіх падкрэсьліў, што для іх, бальшавікоў, *дэмакратызм — „пустышка“. а рэальныя інтарэсы партыі —ўсё*“. Гэтая шчырасьць гаворыць вельмі многа. Значыцца усё што гавораць і пішуць бальшавікі аб „свабодзе, равенстве і брацтве“ — гэтых прынцыпах дэмакратызму—усё гэта „пустышкі“, хаця гэтыя „пустышкі“ і датычаць жыцьця 130 мільёнаў жыхароў сучаснай Расеі. А вось—„рэальны інтарэс партыі. дык гэта ўсё“. —Гэта значыць што інтарэс банды, якая налічвае па статыстыцы саміх бальшавікоў—усяго каля 750.000 чалавек, ставіцца вышэй інтарэсаў усяго народу... Ня дзіва, што уся „палітыка“ ідзе шляхам дастаўленьня карысьці толькі „таварышам — партыйцам“, якім адным толькі й жывецца добра у савецкім раю... Далей, з прамоваў апазыцыі—Каменева, Зіноўева і інш —відаць, што нават і гэткія „стаўпы“ баяцца свабодна гаварыць. У прамовах-жа іх праціўнікаў—Сталіна, Рыкава і інш. проста гэтак і было сказана, што *партыйная дысцыпліна вышэй ўсякіх* „мудрствований“. Сталін нават выразна заявіў, што ўсё тое, што нязгодна з інтарэсам еднасьці партыі — *павінна быць забаронена*. І вось для пачатку — забаранілі выдаваньне у Ленінградзе новай газэты (якую хацеў выдаваць „сам“ Зіноўеў!!) дзеля таго, што гэта быў бы „*орган апазыцыі*“... А па прапазыцыі Сулімава — зьезд даручыў Ц.К. партыі „*зрабіць зараз-жа крокі да зьмены і палепшаньня складу рэдакцыі „Ленінградзкая Праўда“ за тое, што яна „падняла барацьбу проці пастановаў Зьезду*“.. (Звезда № 290). Што ўжо тут гаварыць аб свабодзе слова наагул, калі нават рэдакцыі сваіх жа бальшавіцкіх газэтаў зьмяняюцца за крытыку верхаводаў і забараняюцца газэты апазыцыі, нават Зіноўеўска - Каменеўскага гатунку... Маўчаць,—дый годзі!

### Па „абмылцы“.

Што-б не зрабіў ў Саўдэпіі „партыйны“—усё яму сходзіць з рук, бо калі нельга зусім схаваць таго, што ён нарабіў, дык „пралетарскі суд“ знойдзе апраўданьне ці матыў для паменшаньня кары. Вось адзін з прыкладаў гэтага. У Ташкентскай вобласьці пашыралася апідэмія дыфтэрыту. Бальшавікі паслалі на месца „атрад“, які складаўся з доктара Шорохава і лабарантки Ганчаровай. І вось гэты „атрад“, робячы антыдыфтэрытныя правіўкі, заместа гэтай прывіўкі, прышчапіў многім дзецям дыфтэрытную токсіну (яд). Ад гэтага адразу-жа памёрла 10 дзяцей. Схаваць гэтага факту нельга было. Доктара і яго лабарантку аддалі пад суд. Але з прычыны „крупных заслуг“ абодвых, (яны—комуністы-партыйцы) — „суд“ прызнаў, што тут была „абмылка“ і прыгаварыў іх на... 2 с паловай месяцы пазбаўленьня свабоды... („Праўда“ N 889).

Заместа лекаў—труцізна... Добрая „абмылка!“ Відаць гэтыя „доктар“ і лабарантка — выпуску бальшавіцкага унівэрсытэту, дзе вучаць, галоўным чынам „тэзісы“ Леніна, замест мэдыцыны.

### Палажэньне сялянства.

Усім ведама, што бальшавікі паднялі і павялі за сабой сялянскія масы выключна абяцанкай перадачы ім „усей“ зямлі. І вось прайшло 8 гадоў як яны гаспадараць у Расеі. За гэты тэрмін можна было ўжо правясьці у жыцьцё гэтыя абяцанкі. Тым больш, што уласьнікаў даўно ўжо няма і зямля стаіць свабодная—толькі аддавай. Аднак, як бачым з атчотаў розных бальшавіцкіх арганізацыяў,— палажэньне сялянства зусім не зьмянілася: як і даўней — большасьць мае 1—3 дз. зямлі, беззямельных таксама шмат. Вось ілюстрацыя (па дакладу Рыкава): У 1925 г. з ліку 263.480 гаспадарак—было: без пасева (зн. беззямельных) 4,1 прац; такіх якія маюць: да 1 дз. зямлі—12,3 прац., 1—2 дз.—24 прац., 2—4 дз.—36 прац., 4—6 дз. 15,7 прац., 6—10 дз.—8 пр., 10—16 дз.—1,2 прац., 16—25 дз.—0,1 прац., а болей 25 дзесяцін не аказалася ані воднай гаспадаркі. Гэткім чынам палажэньне сялян, у сэнсі павялічаньня зямлі, — не зьмянілася. Не зьмянілася яно і у сэнсе агульнага дабрабыту. Гэтак па данным Ц.С.У. за 1924 г., з кожных 100 гаспадароў мелі жывёлу: беззямельныя—1 гал. рабочай скаціны — 9,9 чал.; 1 карову—29,2; 2 і болей кароў—7,3; 2 і болей гал. рабоч. скац.—3,3. (У лік беззямельных уваходзяць і мястэчковыя жыхары). З кожных 100 гаспадароў, якія маюць: да 1 дзес зямлі. 1 гал. рабоч. скац. маюць 30,9; 1 карову — 50; 2 і болей раб. скац.—2,9; 2 і болей кароў—9,7; да 2 дз.—1 гал. раб. скац. —43,8; 2 і болей гал. раб. ск.—7; 1 карову—55,5; 2 і болей кароў—15,1; да 3 дз.—1 карову—57,7; 2 і болей кароў—18,8; 1 гал. раб. скац.—54,2; 2 і болей -13,6; на 3—4 дзесяц.—1 карову—59,2; 2 і болей кар.—21,6; 1 гал. раб. ск.—55,3; болей 2—19,7. Як бачым з усіх гэтых данных, шмат гаспадароў ня мае ня толькі рабочай скаціны, але нават і кароў. З кожных 100 гаспадароў зусім ня маюць кароў: на 1 дзес.—39,9: на 1—2 дз.—29,4; на 2—3 дз.—23,5 і на 3—4 дз. —19,2. Без рабочай скаціны: гаспадарак да 1 дзес.—66; 1—2 дз.—54,7; 2—3 дз.—32,4 і 3—4 дз.—25. (Усе гэтыя лічбы ўзяты з газэты „Праўда“ № 292).

Вось які „рай“ далі бальшавікі сялянству!

### Бальшавіцкія гадунцы.

Як выхоўваецца моладзь у комуністычным „раю“ — ведама ўсім. Ні Бога, ні чорта, ні пашаны бацькоў, ні маралі — нічога ня трэба. Чым больш азьвярэюць—тым лепей. Дзеля гэткага выхаваньня спэцыяльна і існуе „камсамол“. І амаль у кожнай бальшавіцкай газэце можна знайсьці жудасныя прыклады азьвярэньня моладзі. Вось адзін з прыкладаў таго, да чаго дайшло выраджэньне.

28 лістапада г. г. Вярхоўны Суд Р.С.Ф.СР. разглядаў справу 5 хлапцоў, якіх абвінавачывалі ў знасіlаваньні 17 гадовай дзяўчыны. Справа была вось як. Даніла Лаўроў, 18 гадоў, ўпадабаў маладую дзяўчыну Мірушэнко. Калі яна, ня гледзячы на яго абецанкі жаніцца, самахоць яму не аддалася, дык ён зьняволіў яе сілай. Баючыся сораму і спадзяючыся, што Лаўроў жэніцца, дзяўчына нікому аб гэтым ня сказала. Праз нейкі час яна зацяжалела. Даведаўшыся аб гэтым, Лаўроў, які зусім ня меў замеру з ёю жаніцца, парашыў пазбавіцца магчымага прысуду харчоў для дзіцяці і надумаў зрабіць Мірушэнкавай апінію „гулящчай дзеўкі“. З гэтай мэтай ён змовіўся са сваімі прыяцелямі — Янкай Галубёвым і Дегцяровым, запрасіў да сябе Мірашэнкаву і там яны па чарзе усе насілавалі яе. Ізноў дзяўчына маўчала, бо Лаўроў ізноў угаварываў яе, абяцаючы жаніцца. Але гэтага мала. Праз нейкі час, ён запрасіў ўжо новых прыяцялёў—Янку Кіся і Тодара Гарбушэнко. Разам з імі зайшоў ён у дом Галубева, куды запрасіў і Мірушэнкаву. Тутка ў прысутнасьці сястры прыяцеля Голубева — Вольгі Голубевай, яны усе трое ізноў па чарзе насілавалі бедную дзяўчыну. На гэты раз — справа папала ў суд, які усіх прызнаў вінаватымі. Але-ж гэта бальшавіцкі суд! Ен усіх прысудзіў на 3 гады звычайнай турмы, ды і тую кару зменшыў да паловы...

Пэўне-ж за гэткае агіднае зьверства ня варта караць: самыя запраўдныя бальшавікі выйдуць з гэтых маладых, а ужо зусім азьвярэўшых дзікароў...

*Ніколі не зьнішчажай газэты*

*Прачытай і перадай суседу!*

# НЯМА КАРЫСЬЦІ.

**(Пісьмо ў рэдакцыю.)**

Усе мы ведаем, што Цэнтральная Школьная Рада зрэформавала Віленскую Беларускую Гімназію. Але мы, бацькі, ня ведалі якая гэта рэформа і ў якіх мэтах яна робіцца. Цяпер-жа аказалася, што галоўным заданьнем гэтае рэформы ёсьць зьліквідаваньне 8 клясы гімназіі. Гэткая рэформа зьяўляецца вялікім ударам для бацькоў вучняў, а нават і для ўсяго народу беларускага ў Польшчы. Цяпер можна спаткаць ні аднога бацьку шкадуючага навошта пускаў сына вучыцца ў Віл. Бел. Гімназію. Усім ведама, што ў гэтай гімназіі вучацца пераважна дзеці сялян. Кожны бацька, які паслаў сваё дзіцё ў места, за некалькі дзесяткаў вёрстаў ад хаты, павінен яму даць кватэру, вопратку, яду і за навуку заплаціць. Усё гэта трэба вымяркаваць са сваёй убогай гаспадаркі, а сам дома застаешся з рэштай сям'і бадай паўгалодны і паўголы, абы толькі падвучыць сына, з якога ў будучыне бацька спадзяецца мець карысьць. Але аказваецца, што дарма гэтага спадзеваецца гаротны бацька, бо за ўсе яго труды застаецца яму толькі дуля пад нос. Яго сын, не атрымаўшы права на паступленьне ў Дзяржаўны Унівэрсытэт, змушаны ісьці на Усход. Вось цяпер запытаемся чаму гэты матурыст ня мае права ўступіць у Дзяржаўны Унівэрсытэт?— А дзеля таго, што ня мае матуры з правамі! — А чаму ён яе ня мае? Бо нашыя культурныя правадыры гэтага ня хочуць! А чаму-ж *абітур'енты літоўскае гімназіі атрымалі ў гэтым годзе казённую матуру?* Бо іхнія правадыры на гэтае згадзіліся! А вось нашыя дык не згадзіліся, бо відаць хочуць, каб нашыя дзеці ехалі на усход. І мы бачым, што за апошнія гады шмат нашых матурыстаў выехала заграніцу, а пераважна ў Бальшэвію. Калі і далей будзе так ісьці, дык няма ніякае карысьці аддаваць дзяцей у сваю гімназію, бо ад гэтага карысьць будзе толькі для бальшавікоў, а для бацькоў і тутэйшага народу ніякае карысьці няма. Нам патрэбна, каб тут у Заходняй Беларусі было найбольш інтэлігэнтных і адукаваных людзёў, бо кажуць, у культурнай дзяржаве лепш жывецца людзям. Тыя-ж асобы, якім мы даверылі сваіх дзяцей думаюць зусім іншае. Ім дай толькі грошы за навуку, а навуковага пашпарту з якім можна было-б ісьці далей за навукай у сваім родным краі яны не даюць. І вось хлапец змушаны шукаць вышэйшай навукі за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Ды, як цяпер будзе ўжо 7 клясаў, дык нідзе не паступіш у Унівэрсытэт нават і заграніцай, апроч бальшавіцкіх унівэрсытэтаў.

Вось нам, бацьком, і пацеха з таго, што сын або дачка выедзе ад родных бацькоў у Бальшэвію і адтуль можа ніколі ня вернецца. Дык няхайжа стараюцца гэтаму запабягчы ня толькі бацькі вучняў, але і ўсё беларускае грамадзянства, бо гэтым страшэнна крыўдзяць наш край, які з боку культурнага стаіць і так нізка, а тут з яго яшчэ вывозяць культурныя адзінкі.

*Бацька.*

*Ад Рэдакцыі.* Зьмешчаючы гэты трывожны голас аднаго з бацькоў вучняў Віл. Бел. Гімназіі, рэдакцыя спадзяецца, што кіраўніцтва гімназіі дасьць належнае высьвятленьне ў гэтак паважнай справе.

# ЖЫЦЬЦЕ ПРОВІНЦЫІ.

**Гміна нішчыць газэты.**

*(Смаргоньская вол., Ашмянскі пав.).*

Цярпеў я, цярпеў, але нарэшце і выцярпець ужо ня можна. Справа. бачыце, вось у чым. Выпісваем мы газэту „Грамадзкі Голас". І рэч зусім зразумелая, што калі выпісваем, дык мусім яе і атрымліваць. Але запраўды выходзіць зусім інакш. Пайшоў гэта я раз на пошту за газэтамі, а там і кажуць, што карэспандэнцыя ўся ў гміне. Я туды. Карэспандэнцыя праўда ўся там, але газэтаў чамусьці няма. Пайшоў другі раз — ізноў няма. Спачатку я думаў, што гэта з віны адміністрацыі, але аказалася што газэта высылаецца мне акуратна. Гэтак і ня мог я даведацца дзе гінуць мае газэты.

Але вось нядаўна зайшоў да мяне сусед. Я разбядаваўся, што мяне гэтак крыўдзяць, забіраючы роднае слова. У адказ на гэта сусед сказаў мне, што беларускімі газэтамі павыклеяваны ў гміне вокны і сьцены. Я, ня верачы суседу, пайшоў у гміну, каб праканацца ў гэтым самаму. Аж выйшла, што сусед мяне не маніў і гаварыў праўду. У гміне я ўбачыў, што *ўсюды на вокнах і на сьценах панаклеяны беларускія газэты*. Паміж гэтых газэтаў знайшоў я і свой „Грамадзкі Голас". Адрасы, праўда, былі пазрываны, але ня зусім і яшчэ можна было прачытаць увесь мой адрас. Дык вось, людцы. як крыўдзяць нас—беларусаў! Прашу паважаную рэдакцыю, каб як-небудзь дапамагла нам у гэтай справе, бо мы, цёмныя, нічога зрабіць тут ня можам.

*Пакрыўджаны.*

*Ад рэдакцыі:* У гэтай справе намі будуць зроблены захады перад адпаведнымі ўладамі.

**Дарэмная радасьць.**

*(м, Казлоўшчына, Слонімск. пав.).*

Ня гледзячы на тое, што ў беларускай прэсе усё часьцей пачалі зьяўляцца артыкулы па пытаньню аб беларусізацыі праваслаўнай царквы, у якіх аўтары дамагаюцца, паміж іншым, каб казаньні ў царквах гаварыліся у беларускай мове, нашае духавенства аб гэтым зусім ня рупіцца. Наш бацюшка пачаў было гаварыць казаньні па беларуску, але ў апошні час нешта спыніўся і ня гаворыць ужо ня толькі па беларуску, але нават і па расейску. Пэўне гэткі дрэнны уплыў на яго зрабіла пахвала ў „Праваслаўным Беларусе". Ён ужо 2 разы пачынаў гаварыць казаньні ў беларускай мове і мы ўжо спадзяваліся што гэтак будзе ў нас ужо заўсёды. Але відаць дарэмна мы радаваліся.

*Зялёны.*

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**Распараджэньне аб заграні́чных пашпартах.** Выдана новае распараджэньне аб аплаце заграні́чных пашпартоў. На падставе гэтага распараджэньня будуць выдавацца льготныя пашпарты па 150 зл. і 20 зл. За 20 злотых пашпарты будуць выдавацца тым асобам якія едуць заграніцу па сямейным справам.

**Парцэляцыя маёнткаў.** У хуткім часе пачнецца прымусовая парцэляцыя маёнткаў на Віленшчыне. У першую чаргу будуць распарцэляваны маёнткі ў Трынаполі і ў Ласюўцы.

**Адрачэньні для прызыўных 1905 г.** Ад 15 лютага г.г. ад прызыўных 1905 г. будуць прымацца просьбы аб адрачэньні ім тэрміну вайсковай службы, або зменшаньні тэрміну гэтай службы. Прашэньні ў гэтай справе будуць прымацца да 1 траўня г. г.

**Лік безработных у Вільні.** На 9 г. м. у Вільні была зарэестравана 4450 безработных, у тым ліку 925 асоб атрымліваюць дапамогу.

# Юрыдычныя парады.

**Грам. Я. Дудз — му.** *Запытаньне:* Маю бацькаўшчыну—18 дзес. зямлі. Карыстае з яе брат бацькі. Я ня жыў на зямлі ад 1913 году. Кажуць што страціў правы. Ці праўда?

*Адказ:* А бацька жыве яшчэ, ці не? Калі не, дык ці даўно памёр? Прышліце гэтыя данныя, бо бяз іх нельга даць парады.

**Грам. М. Пар — ку.** *Запытаньне:* За бацьку быў паложаны залог — „каўцыя" 500 зл. Яшчэ вясною бацька памёр. Падавалі ў суд аб звароце залогу — адказу няма. Як атрымаць гэтыя грошы?

*Адказ.* Трэба падаць просьбу ў тую судовую ўстанову, якая залог прыняла (Судз. Сьледавацель, Акружны ці Апэляцыйны Суд). Просьбу павінна падаць тая асоба, якая палажыла залог і на якую выпісана паквітаваньне. Калі просьба, якую вы падавалі падана так, як трэба, дык трэба асабіста паехаць, каб атрымаць асыгноўку, а па ёй грошы з Касы Скарбовай. Грошы вам гатоўкай ня вышлюць, а могуць толькі выслаць асыгноўку. Лепей прыехаць самому.

**Падп. С. Ян — ку.** *Запытаньне:* У 1913 годзе я пайшоў у суседнюю вёску ў прымы. Была зробляна з цесьцям умова, пасьведчаная ў воласьці. Па гэтай умове я атрымаў ад цесьця 12 дз. зямлі і абавязаўся утрымоўваць яго з жонкай і 3 швагерак якіх павінен быў выдаць замуж і даць ім пасаг. Двох швагерак я гэткім чынам замуж выдаў, трэцьця яшчэ ў мяне. Тымчасам памерла цесьцява жонка. І хаця яму ужо 78 гадоў, але знайшоў нейкую бабу, якая зусім прыбрала яго да рук. Стары хоча ажаніцца; Нявеста патрабуе каб ён аддаў ей зямлю. Абаламучаны стары выкраў у мяне дакумэнты з 1913 г. і цяперака хоча зямлю запісаць сваёй будучай жонцы. У гміне ніякіх старых кніг няма. Копіі дакумэнту дастаць нельга. Есьць сьведкі, якія падпісвалі умову ў 1913 годзе і старшыня. Што рабіць?

*Адказ:* Тымчасам вашае права фактычна не нарушана. Бо стары толькі „хоча" і жаніцца і запіс зрабіць. Есьць факт толькі пакражы дакумэнтаў. Абвінавачваць старога ў кражы — ня варта ды і чым дакажаце? Лепей пры сьведках запрапануйце яму аддаць дакумэнты вам. Калі не аддасьць, або будзе заперацца,—трэ' будзе зьвярнуцца да Суда з позвай. Напішыце аб рэзультатах прапановы старому, дадзім параду, што рабіць далей. Старайцеся аднак направіць справу мірам бо гэта-ж стары, ды і цесьць.







Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей.

Друкарня Я. Баеўскага.